©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 №24 (1), 2016
ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
Гісторыя і нацыя № 24 (1) 2016

# Анатацыі і ключавыя словы

## Палітыка памяці і гістарычная палітыка

### *Дангірас Мачуліс.* Калектыўная памяць як зброя: гісторыя ВКЛ у савецкай прапагандзе падчас савецка-нямецкай вайны

Падчас савецка-нямецкай вайны Савецкі Саюз ператварыў вобразы калектыўнай памяці ў інструмент прапаганды. Да пачатку 1941 года Літва ўжо была пераўтвораная ў адну з савецкіх рэспублік СССР, і дзякуючы гэтаму ў савецкай прапагандзе з'явіліся вобразы з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. У артыкуле разглядаецца, як падчас Другой сусветнай вайны вобразы з гісторыі ВКЛ апынуліся ў савецкім антыфашысцкім прапагандысцкім дыскурсе, якімі вобразамі з гісторыі ВКЛ карысталася савецкая прапаганда і для якіх мэтаў гэтыя вобразы выкарыстоўваліся ў першую чаргу. Прапаганда мела двух асноўных адрасатаў – літоўцаў, якія жылі на акупаваных Германіяй тэрыторыях, і літоўцаў, якія змагаліся ў шэрагах Чырвонай арміі. Для мабілізацыі абедзвюх групаў выкарыстоўваліся вобразы калектыўнай памяці – галоўным чынам больш чым двухсотгадовы адрэзак гісторыі ВКЛ, адзначаны няспыннай барацьбой з крыжакамі.

***Ключавыя словы:*** калектыўная памяць, прапаганда ў СССР, гістарычная памяць у Літве, Вялікае Княства Літоўскае, нацыяналізм.

### *Аляксей Ластоўскі.* Прапрацоўка камуністычнага мінулага ў Славакіі: асноўныя фактары і дынаміка

У артыкуле разглядаецца працэс развітання з камуністычным мінулым у Славакіі. Адмыслова аналізуецца працэс пераходу ўлады і канфігурацыя эліт, паколькі гэтыя фактары прынцыпова паўплывалі на характар дэкамунізацыі. Таксама адзначаецца, што істотна паўплывалі на палітыку памяці ў Славакіі славацка-чэшскія стасункі і працэс уступлення ў Еўразвяз.

***Ключавыя словы:*** Славакія, посткамуністычная трансфармацыя, дэкамунізацыя, палітыка памяці.

### *Таццяна Шчурко.* Рэпрэзентацыя жанчын у падручніках па гісторыі Беларусі (2009–2012)

У артыкуле прадстаўлены гендарны аналіз беларускіх падручнікаў па гісторыі Беларусі. Даследаванне паказвае, што сучасныя беларускія падручнікі працягваюць кан-

струяваць традыцыйны погляд на гісторыю як пераважна мужчынскую/публічную і на становішча жанчыны ў грамадстве. “Афіцыйныя” падручнікі па гісторыі мала ўлічваюць ўнёсак жанчын у развіццё грамадства. Яны асвятляюць пераважна ваенную, эканамічную, палітычную гісторыю і надаюць недастаткова ўвагі гісторыі штодзённасці, што прыводзіць да выключэння з карціны гістарычнага мінулага ўнёску жанчын у развіццё грамадства. Іх дзейнасць успрымаецца галоўным чынам як асабістая, сямейная, прыватная, і таму малазначная. Падручнікі ствараюць свет, дзе мужчыны больш актыўныя, чым жанчыны. Яны часцей маюць уладу і доступ да ўсіх рэсурсаў. Іх колькасць значна пераўзыходзіць колькасць жаночых вобразаў.

***Ключавыя словы:*** школьныя падручнікі, гендарны аналіз, жаночая гісторыя, гендарная гісторыя, гісторыя Беларусі.

## Палітыка ідэнтычнасці

*Вольга Цадко.* **Палессе і вопыт рацыянальнага канструявання (1988–1995)**

У артыкуле праведзена ацэнка вопыту нацыянальнага канструявання на прыкладзе ідэалагічнай дзейнасці грамадска-культурнага аб'яднання “Полісьсе”. Паказаны прычыны яго ўзнікненя, выяўлены і прааналізаваны інструментар і патэнцыял створанага этнапалітычнага міфа. Створаны ГКА “Полісьсе” этнапалітычны міф уяўляў сабой комплексны і тэарэтычна распрацаваны канструкт, які кардынальна супярэчыў раней засвоеным міфалагічным наратывам. Нягледзячы на шырокі набор ідэй і распрацаваную аргументацыю, міф не змог набыць статус сапраўднага ўяўлення насельніцтва рэгіёна аб падзеях мінулага, сучаснасці і будучыні, бо не быў успрыняты мэтавай аўдыторыяй.

***Ключавыя словы:*** Палессе, нацыянальны рух, ГКА “Полісьсе”, нацыяналізм, канструяванне ідэнтычнасці, палеская літаратурная мова, рэгіяналізм.

## Гісторыя ідэй

*Рымантас Мікніс.* **Першая сусветная вайна і адбудова дзяржаўнасці гістарычнай Літвы (Літвы і Беларусі) у канцэпцыі Міхала Ромэра**

У дадзеным артыкуле разглядаецца гісторыя літоўскай дзяржаўнасці ў поглядах юрыста, палітыка, актывіста, літоўскага і польскага культурнага дзеяча Міхала Ромэра. Аналізуецца канцэпцыя Міхала Ромэра, палітычныя абставіны і асноўныя прычыны яе няўдачы. Хоць Ромэр заклікаў актывістаў з Цэнтральных нацыянальных камітэтаў у Варшаве і Кракаве паставіць на парадак дня ў польскай палітыцы пытанне аб гістарычнай Літве, якое было важным для незалежнасці Польшчы і рэгіянальнай геапалітычнай стабільнасці, польскія палітыкі інтэрпрэтавалі яго планы як палітычную інтрыгу.

***Ключавыя словы:*** этнаграфічная Літва, Беларусь, федэрацыя Польшчы і гістарычнай Літвы, дзяржаўнасць гістарычнай Літвы.

***Радзівон Попель.*** **“Точка опори” ці “литовська окупація”: дзеячы ўкраінскага нацыянальнага руху XIX – першай паловы XX стагоддзя пра далучэнне ўкраінскіх земляў да ВКЛ**

У артыкуле аналізуюцца погляды дзеячаў украінскага нацыянальнага руху XIX – першай паловы XX стагоддзяў на пытанне далучэння ўкраінскіх земляў да Вялікага Княства Літоўскага. Таксама звернута ўвага на ацэнкі, дадзеныя ўкраінскімі нацыянальнымі дзеячамі розным праблемам “літоўскага” перыяду сваёй гісторыі. Разглядаюцца творы тагачаснай украінскай гістарыяграфіі, працы палітычнага, публіцыстычнага зместу. Аўтар параўноўвае погляды на “літоўскі” перыяд прадстаўнікоў нацыянальна-дэмакратычнай і манархічна-кансерватыўнай плыняў украінскага нацыянальнага руху. Праводзяцца паралелі з сучаснай гістарыяграфіяй Украіны.

***Ключавыя словы:*** гісторыя Украіны, Вялікае Княства Літоўскае, украінскі нацыянальны рух, украінская гістарыяграфія, гістарычная памяць.

## Палітычная гісторыя

***Аляксандр Быстрык.*** **Газета “Biełarus” (1913–1915) і яе месца ў беларускім грамадстве пачатку XX стагоддзя**

У артыкуле апісваецца маладаследаваны феномен беларускага рэлігійна-патрыятычнага руху, а таксама гісторыя яго друкаванага органа – газеты “Biełarus”. У прыватнасці, робіцца спроба акрэсліць перадумовы з'яўлення гэтага выдання: праводзіцца агляд моўнай палітыкі каталіцкага касцёла на Беларусі і гісторыі развіцця рэлігійна-патрыятычнага руху. Аўтар апісвае некаторыя аспекты гісторыі і структуры газеты, у тым ліку біяграфіі яе стваральнікаў, а таксама аналізуе яе чытацкую аўдыторыю на падставе лістоў чытачоў. Гэтаксама аналізуецца рэакцыя на з’яўленне газеты ў розных перыядычных выданнях Вільні.

***Ключавыя словы:*** гісторыя Беларусі, каталіцкі рух у Беларусі, беларускі нацыянальны рух, беларускі друк, газета “Biełarus”.

***Тацяна Касатая.*** **Праблемы гістарыяграфіі Евангельскіх хрысціян-баптыстаў: традыцыі перыяду БССР**

У артыкуле разглядаюцца асноўныя праблемы савецкай гістарыяграфіі Евангельскіх хрысціян-баптыстаў (ЕХБ). Кантроль з боку дзяржавы, метадалагічныя і тэматычныя абмежаванні ўплывалі на тэндэнцыйнае адлюстраванне дзейнасці ЕХБ у савецкім грамадстве. Пераважалі сацыялагічныя і рэлігіязнаўчыя даследаванні, якія мелі прыкладны характар і з’яўляліся часткай рэлігійнай палітыкі, фармавалі вобраз вернікаў у афіцыйным дыскурсе. Савецкая гістарыяграфія – гэта не толькі крыніца вывучэння дзяржаўна-рэлігійных узаемаадносінаў, яна ўтрымлівае багаты факталагічны матэрыял дзейнасці ЕХБ у БССР. Акрамя таго, аналіз даследаванняў савецкага часу дазваляе пазбавіцца шматлікіх стэрэатыпаў і абмежаванняў у фармаванні сучаснай беларускай гістарыяграфіі.

***Ключавыя словы:*** гістарыяграфія, гісторыя БССР, Евангельскія хрысціяне-баптысты, рэлігійная палітыка, рэлігійны рух у Беларусі.